# НАВІНЫ З РОДНАЕ СЬВЯТЫНІ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

+ ВЕСТКІ З ЖЫЦЬЦЯ ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА +
401 ATLANTIC AVENUE, BROOKLYN, N.Y. 11217-1702

ГОД 4 | КАЛЯДЫ 2004 | № 2/7

## КАЛЯДЫ НЕ КУПЛЯДЫ

Жывучы ў Амэрыцы не схавацца ад рэклямы, але ніколі яна не дакучае так як перад Калядамі, калі ўжо зараз-жа пасьля нашых Дзядоў на далявідзьзі й радыё, на кожнай вуліцы й ў кожнай краме відаць і чуваць няспыннае заахвочваньне, ды спакушаньне купляць, і купляць падаркі.

Гэтае спакушаньне ды заахвочваньне купляць ня робіцца надарма - ад яго амэрыканцы, ды асабліва амэрыканкі, сьпяшаюць і цiснуцца ў крамы, каб накупляць тых падаркаў па, быццам, спушчанай цане, часам і ў запас.

За гэтым вэрхалам і мітусьнёю запраўдная прычына сьвята - Хрыстовае Нараджэньне, зусім ня ў памяці - замест яго старыя й малыя пакланяюцца пузатаму дзеду Санта Клосу, што цэлы год у ягонай хатцы на паўночным пляшы рыхтуе падаркі й за адну калядную ноч, залазячы ў дамы праз коміны, патрапляе гэныя падаркі разьвязьці па ўсёй чыста Амэрыцы ды ці не па ўсім сьвеце.

Пасьля-ж таго, калі падаркі йз задаволеньнем, ці з расчараваньнем пабраныя спад ялінкі, ужо на другі дзень тая ялінка выкідаецца на вуліцу й адзіны ўспамін па сьвяце - хада ў крамы мяняць падаркі, што ня прыйшлі даспадобы.

Але не сьпяшайма асуджаць амэрыканцаў, як кажацца ў Дабравесьці, хоць і не за застрамку, але добры сук у іхным воку, калі і ў воку кожнага з нас гэткі-ж, а можа яшчэ большы сук.

Бо амэрыканцы найчасьцей із усіх заходніх народаў, асабліва ў вялікія сьвяты, усё-ж наведваюць адправы ў іхных сьвятынях, а мы, нажаль, пахваліцца гэтым ня можам.




З ХРЫСТОВЫМ НАРАДЖЭНЬНЕМ,
а таксама
З НОВЫМ 2005-м ГОДАМ
ВІТАЕМ ДУХАВЕНСТВА Й ВЕРНІКАЎ
БАПЦ, ДЫ БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА.
УСІМ ШЧЫРА ЖАДАЕМ
РАДАЙ КАЛЯДЫ Й ШЧАДРА НАЛЕТА!

Мы бо, шчыра кажучы, падчас перадкалядняе мітусьні ў крамах сабе таксама сёе-тое набываем, хоць і з увагай на нашую яшчэ нягрыбокую кішэню, ды з асьцярогай купляць на павер.

Затое, пайсьці на адправу ў царкву, ня кажучы ўжо праз звычайныя нядзелі, але хоць на сьвята Хрыстовага Нараджэньня, што бывае раз у год, няма як, бо трэба працаваць, або рабіць што іншае, ці проста ня хочацца.

Але, як прыцісьне хвароба, ці іншая бяда, кожны з нас несаромеючыся просіць "Божа, памажы!", а калі Божа не паможа, пачынае наракаць, быццам на дапамогу ад Бога мае права з роду, а не павінен на яе хоць чымколечы заслужыць.

Больш яшчэ нягожа наракаць тым, што ненаведваючы царкву выпраўдваюцца тым, што ў ёй нешта ім неўспадобу, але прычыніцца справай, каб неўспадобнае зьмяніць на лепшае ня хочуць.

Асабліва гэта нясумленна з боку тых, што на словах дамагаюцца беларусізацыі нашае царквы, хоць самыя ў царкве амаль ніколі ня бываюць і гэткім чынам выходзіць, што тую беларусізацыю павінен зрабіць нехта іншы, для некага іншага.

Нажаль, здаючыся ў гэтай справе на іншых, цяжка спадзявацца на жаданыя вынікі.

Таму, Любыя Парахвіяне й Парахвіянкі, ды беларусы Нью Ёрку й ваколіцы, пачнема ад сёлетніх Калядніх Сьвят часьцей наведваць нашую Сьвятыню й браць удзел у парахвіяльным жыцьці, каб і ў душах быць бліжэй да Бога, ды каб нашая Сьвятыня й парахвія яшчэ лепш служылі нашым рэлігійным і грамадзкім патрэбам!

# НАШ ФЭСТЫВАЛЬ



**26-га ВЕРАСЬНЯ 2004-га г.**

СЬПЯВАЕ СП-НЯ ЛІДА КАНО ПРЫ ПІЯНІНА СП-НЯ ТАЦЬЦЯНА ДЗЯМЕШЧЫК ←

СЬПЯВАЕ СП-НЯ РАІСА ПАКРОЎНАЯ →



Беларускі Фэстываль - найбольшая імпрэза, якую нашая парахвія ладзіць раз у год, каб склікаць якнайбольш аселых у Брукліне й ваколіцы беларусаў, ды роднай песьняй, пачастункам звычнымі змалку стравамі і сустрэчай із землякамі прыпомніць ім далёкі Родны Край. Імкнемся палепшыць і ўзбагаціць гэтую ўрачыстасьць, каб і амэрыканцам паказаць багацьце й хараство нашае культуры, але на гэта патрэбны большы ўдзел і дапамога беларускага грамадзтва ў Нью Ёрку. Тымчасам, аднак, робім усё магчымае на нашыя сьціплыя сілы, каб гэтую імпрэзу зарганізаваць. А працы, як з падрыхтоўкай мастацкае часткі фэстывалю, гэтак і з гаспадарчай ягонай часткай нямала, дык і пачынаецца яна яшчэ загадзя ўлетку.

Дзякуючы, аднак, Богу, што паслаў нам выдатных пяюньняў-парахвіянак і ім самым, ды стараньням кіраўнічкі парахвіяльнага хору, сп-ні Ліды Кано, мастацкую частку сёлета й узноў удалося зладзіць на вялікае задаваленьне публікі.



Выступілі ў ёй: сп-ні Ліда Кано, Рыма Пракопчык і Раіса Пакроўная, кожная выдатна выконваючы нашыя родныя песьні й кожная атрымоўваючы за гэта шчодрыя воплескі. Нельга, аднак, не адзначыць, што публіка вельмі цёпла ўспрыйняла створаныя сп-няй Пакроўнай на словы ейных собскіх вершаў захапляльныя песьні.

Прыемнай неспадзеўкай на Фэстывалі была прысутнасьць на ім нашых ведамых сьпевакоў сп-ва Валянтыны Пархоменка й Алеся Казака, што былі ласкавыя выступіць з колькіма ўсім нам ўпадабалымі песнямі, за што былі ўзнагароджаныя шчодрымі воплескамі.

Тут трэба згадаць, што падчас выступаў сьпевакоў публіка не сядзела галодная, а са смакам спажывала прыгатаваныя Сястрынствам нашыя краё-

← СЬПЯВАЮЦЬ СП-ВА АЛЕСЬ КАЗАК І ВАЛЯНТЫНА ПАРХОМЕНКА (КАЗАК)

# НАШ ФЭСТЫВАЛЬ



Як асабіста нашым артысткам і акампаністцы, гэтак і сяброўкам сястрынства, што прычыніліся да посьпеху фэстывалю, у асобе старшэйшае сястры сп-ні Зоі Вашкевіч, у знак падзякі за іхную ахвярнасьць ад парахвіі былі падараваныя букеты кветак.

Хоць і бяз букетаў, але на ня менш шчырую падзяку ад парахвіі за іхны ўклад у посьпех фэстывалю заслугоўваюць і сп-ры Алесь Казак, Мікалай Вашкевіч, Сяргей

НА СЦЭНЕ З КВЕТКАМІ: ЗОЯ ВАШКЕВІЧ, РЫМА ПРАКОПЧЫК, ВАЛЯНТЫНА КАЗАК, ЛІДА КАНО, ніжэй РАІСА ПАКРОЎНАЯ і ТАЦЬЦЯНА ДЗЯМЕШЧЫК

выя стравы, а на вуліцы перад саборам, дзе адбываўся гадавы амэрыканскі кірмаш "Atlantic Antic", і амэрыканцы з упадабаньнем знаёміліся з прысмакамі нашае кухні.

Частавалі ахвочых пасілкавацца, у залі: сп-чны Натальля й Марына Колбунішкі, а спад павеці на вуліцы: сп-чна Вірджынія Смольская й сп-ня Зоя Вашкевіч, усе ў беларускіх народных строях, ды сп-ч Юры Сандовіч.

Але сьпевы нашых пяюньняў і праца прадаўніцаў - гэта вонкавае, ці сьвяточнае аблічча фэстывалю, што было створанае пры дапамозе й іншых людзей - для артыстак, дзякуючы акампаністцы, сп-ні Тацьцяне Дзямешчык, а для кухні, дзякуючы сп-ву Зоі й Мікалаю Вашкевічам, ды сяброўкам парахвіяльнага сястрынства: Алене Бараноўскай, Ганьне Войтанка, Марыі Данілюк, Тацьцяне Красоўскай й Аляксандры Лістоўскай, што прыгатавалі мноства страваў на продаж.



ПРАДАЎНІЦЫ СТРАВАЎ У ЗАЛІ: НАТАЛЬЛЯ й МАРЫНА КОЛБУНІШКІ З ТАТАМ АНАТОЛЯМ КОЛБУНАМ



Капытка і Юры Сандовіч, а таксама сябры Парахвіяльнае Рады, ды ўрэшце тая частка беларускае грамадзтва зь Нью Ёрку й ваколіцы, што фэстываль ейнай прысутнасьцяй на ім падтрымала.

Будзем спадзявацца, што гэтая прысутнасьць з кожным фэстывалям будзе нятолькі павялічвацца, але й абернецца ў шырэйшы ўдзел у ягонай арганізацыі й павышэньні ягонага ўзроўню, каб не адных нас ён радаваў багацьцем нашае культуры, але й каб амэрыканцам мы змаглі з гонарам яе паказаць.

ПРАДАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ СТРАВЫ НА ВУЛІЦЫ ПЕРАД САБОРАМ: ВІКТОРЫЯ СМОЛЬСКАЯ і ЗОЯ ВАШКЕВІЧ

## КАЛЯДНІЯ й ПЕРАДПОСТАВЫЯ АДПРАВЫ

Чацьвер, 6-га студзеня (6.І.) 2005-га г. - Сьвяты Вечар - на конадні Хрыстовага Нараджэньня Вялікае Павячэрра, пачатак а 6-й г. вечара.

Пасьля адправы, у залі можна будзе пачаставацца прыгатаванай сястрынствам куцьцёю.

Пятніца, 7-га студзеня (7.І.) - ХРЫСТОВАЕ НАРАДЖЭНЬНЕ - Сьв. Літургія, пач. а 10-й р.

Сыбота, 8-га студзеня - Сьв. Літургія, пач. 10 г.р.

Нядзеля, 9-га студзеня (9.І.) - Першмуч. Архдыяк. Сьцяпана - Сьв. Літургія, пач. а 10-й г. р.

Пасьля Сьв. Літургіі, у залі калядняя бяседа й сьвяточны сход Нью Ёркскага Адэьзелу БАЗА.

Пятніца, 14-га студзеня (14.І.) - Сьв. Васіля Вялікага (Новы год ст. ст.) - адправы ня будзе.

Серада, 19-га студзеня (19.І.) - Вадохрышча - адправы ня будзе.

Нядзеля, 23-га студзеня (23.І.) - Сьв. Літургія й Вялікае Асьвячэньне вады, пач. а 10-й г. раніцы.

Нядзеля, 13-га лютага (13.ІІ.) - Сьв. Літургія й асьвячэньне грамнічных сьвечак.

Аўторак, 15-га лютага (15.ІІ.) - Стрэчаньне (Грамніцы) - адправы ня будзе.

Ува ўсе бяз выйнятку нядзелі Сьв. Літургія пачынаецца а 10-й г. раніцы.

Скаромная (мясапустная) нядзеля сёлета 6-га сакавіка (6.ІІІ.).

Запускавая (сырапустная) нядзеля - Масьленка - сёлета 13-га сакавіка (13.ІІІ.).

Пачатак Вялікага посту ў панядзелак, 14-га сакавіка (14.ІІІ.).

ВЯЛІКДЗЕНЬ - 1-га травеня (мая).

## НАСЬЦЕННЫЯ КАЛЯНДАРЫ

Сёлета, як і раней у нашым саборы можна атрымаць прыгожыя беларускія насьценныя каляндары.

Каляндары можна атрымаць бясплатна, але калі хто будзе ласкаў даць за гэта ахвяру, Парахвіяльная Рада будзе вельмі ўдзячная.

Каляндары парахвія атрымоўвае з ласкі пахавальнага прадпрыемства М.А. Малішэўскага ў Саўт Рывэры, Н.Дж.

## ПАПРАЎКА

Зь недагляду ў апісаньні Парахвіяльнага Сходу 9-га травеня г.г. у папярэднім н-ры "НзРС" ня было пададзена, што ў Парахвіяльную Раду быў выбраны сп. Мікалай Вашкевіч.

Таксама ня было адзначана, што ў Парахвіяльную Раду з ураду ўваходзяць: старшэйшая сястра ў Сястрынстве, сп-ня Зоя Вашкевіч, і кіраўнічка царкоўнага хору, сп-ня Ліда Кано.

Моцна перапрашаем за гэтую прыкрасьць успомненых вышэй сяброў Парахвіяльнае Рады й нашых чытачоў.

**НАВЕДВАЙЦЕ СЕЦІЎНУЮ МЕСЬЦІНУ БАПЦ**
WWW.belaoc.com
**ДЫ АДГУКАЙЦЕСЯ ЭЛЕКТРОННАЙ ПОШТАЙ**
belautoc@yahoo.com

**СЬВ. ПАМ.**

## ВІКТАР ЛОСІК

*** 19.VIII.1961 - + 8.IX.2004**

**ПРЫКЛАДНЫ ВЕРНІК БАПЦ і БЫЛЫ СТАРШЫНЯ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ Ў ГАЙЛЭНД ПАРКУ, Н.ДЖ. ДЫ АХВЯРНЫ ПАРАХВІЯНІН КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ, ШЧЫРЫ БЕЛАРУСКІ ПАТРЫЁТ І ЎЗОРНЫ ГРАМАДЗЯНІН ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ АМЭРЫКІ, ВЭТЭРАН ВАЙНЫ Ў ВЬЕТНАМЕ, ПАСЬЛЯ ЦЯЖКОЕ ХВАРОБЫ АДЫЙШОЎ У ВЕЧНАСЬЦЬ НА 57-м ГОДЗЕ ЖЫЦЬЦЯ.**

**СЬВ. ПАМ.**

## ВАЛЕРЫ ФАНСКІ

*** 18.VIII.1961 - + 14.IX.2004**

**СЫН АХВЯРНАЕ ПАРАХВІЯНКІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ й БЕЛАРУСКАЕ ПАТРЫЁТКІ СП-НІ ІНЫ ФАНСКАЕ НЕЧАКАНА АДЫЙШОЎ У ВЕЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ НА 44-м ГОДЗЕ ЗЯМНОГА ЖЫЦЬЦЯ.**

**ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 10-й Г. РАНІЦЫ.**

**СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ АБВЕШЧАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.**

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, ЦІ ПАДАЦЬ УСПОМНЫЯ ЛІСТКІ ЗА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ, АБО СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ.**

**АДРЫС: 401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217**
(РОГ BOND STREET)
**TEL./FAX: N.Y. (718) 875-0595, N.J. (732) 868-1589**
ДАЕЗД ПАДЗЕМКАЙ ЦЯГНІКАМІ "А", "С", "G"
ДА СПЫНКУ HOYT-SCHERMERHORN,

**ПАВАЖАНЫЯ ПАРАХВІЯНЕ!**

**МІНУЎ УЖО АМАЛЬ УВЕСЬ 2004-ты ГОД, А НЯ ЎСЕ ВЫ ЗАПЛАЦІЛІ $ 50.00 ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СКЛАДКІ. БУДЗЬЦЕ ЛАСКАВЫЯ ЗАПЛАЦІЦЬ ГЭТЫЯ ГРОШЫ ЯКНАЙХУТЧЭЙ, КАБ ПАРАХВІЯ ЗМАГЛА РАЗЬЛІЧЫЦЦА ЗА НЕАБХОДНЫЯ ВЫДАТКІ. СКЛАДКІ ПРЫЙМАЕ СКАРБНІК ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ СП. ЮРЫ ЧАРНЫШОЎ, АБО СТАРШЫНЯ РАДЫ СП. РАСЬЦІСЛАЎ ГАРОШКА.**